


# МЕРКАВАННІ НАКОНТ ЛІШНЯГА «ТЛУШЧУ» Ў ГАНДЛЮ – ЯЎНА ПЕРАБОЛЬШАНЫЯ...

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**Прычым многія лічылі, ды і цяпер лічаць, што гэту сферу дзяржаве ніяк нельга выпускаць са сваіх рук, бо акцыянеры, прыватнікі адразу ж пакінуць людзей і без хлеба, і без малака. Ваша таварыства стала першапраходцам у справе прыватызацыі дзяржаўнага гандлю харчовымі таварамі — і што ў выніку?**

— Вынік бачны па тых жа паліцах магазінаў, на якіх засталіся і хлеб, і малако, хоць гандаль імі і з'яўляецца для нас цалкам стратным. Больш таго, асартымент харчовых тавараў нават пашырыўся, хоць у нас, як і ў многіх цяпер, востра не хапае абаротных сродкаў, існуюць і іншыя цяжкасці, якія вынікаюць з дзяржаўнага стрымлівання цэн.

Напрыклад, у нашых магазінах заўсёды ёсць у продажы не менш 10 відаў каўбасна-мясных вырабаў. Сама сітуацыя, імкненне выжыць і зарабіць (без разлікаў на нечую дапамогу) прымушаюць пільна сачыць за тым жа асартыментам, якім пакупніка ўжо нялёгка і здзівіць. Усё, у рэшце рэшт, заключаецца ў спрэчцы за таго ж пакупніка, у жорсткай канкурэнцыі, якая, па сутнасці, і існуе сёння толькі ў гандлі.

Скажам, калі пакупнік не знойдзе ў нас таго ці іншага тавару, ён хутчэй за ўсё не возьме і астатняга, а пойдзе ў іншы магазін, да канкурэнтаў (а іхніх магазінаў побач з нашымі — праз 300 метраў больш чым трэба), каб атаварыцца ўсім адразу. Даводзіца ўлічваць і той фактар, што нашы магазіны размешчаны пераважна ў прамысловым раёне, а, як вядома, рабіць закупкі прынята «дома», г. зн. па месцы жыхарства... Адным словам, асартымент трэба мець як мага багацейшы. Адпаведна, працуем з шырокім колам пастаўшчыкоў — як з дзяржаўнымі прадпрыемствамі, так і з прыватнымі фірмамі; не адмаўляем нікому, хто прапануе дабраякасны тавар і па прымальнай цане. Калі па асобных таварах і былі перабоі — то зусім нязначныя, і яны хутка ўхіляліся.

Варта тут жа назваць і такі фактар, як культуру абслугоўвання. Яна ў нас таксама павысілася істотна, пры гэтым акцыянеры таварыства даручылі дырэкцыі бязлітасна караць тых, хто падманвае, абважвае пакупніка, або груба з ім размаўляе.

І наступнае. Магазіны ранейшага райхарчгандлю, у якіх цяпер гаспадарыць таварыства (на ўмовах арэнды або маючы іх у сваёй уласнасці), у пераважнай большасці цалкам змянілі свой выгляд — як звонку, так і ўнутры. У іх прыемна зайсці. Мы паставілі мэтай поўнасцю ўсе магазіны рэканструяваць, адпаведна большую частку прыбытку накіроўваем на іх рамонт і пераабсталяванне. Увогуле, ва ўмовах той жорсткай канкурэнцыі, якая цяпер існуе ў гандлі, адносна невялікія магазіны могуць выжыць і развівацца толькі тады, калі яны аб'яднаюць свае рэсурсы і магчымасці, што мы і зрабілі. Пра гэта ж сведчыць і сусветная практыка.





● Так выглядаюць сёння гандлёвыя аб'екты ААТ «Постгандаль» і іх паліцы.
● Кантралёр-касір магазіна № 5 Ларыса АНДРЭЕНКА.

**— Сяргей Аляксандравіч, і сучасны выгляд магазінаў, і асартымент, і культура абслугоўвання — гэта, вядома, добра, аднак для нашага пакупніка, для многіх з нас галоўным фактарам застаюцца цэны. А апошнія — даволі «куслівыя». На харчовыя тавары мы вымушаны траціць пераважную частку зароблёных сродкаў, а многія — і ўвогуле ўсе сродкі, ды і тых не хапае...**

— І, вядома ж, многія вінавацяць у гэтым гандаль (тут жа зазначу: цэны ў магазінах нашага акцыянернага таварыства крыху ніжэйшыя, чым у цэнтры горада або супермаркетах). Між тым, для рознічнага гандлю прадуктамі харчавання (усіх формаў уласнасці) устаноўлена адносна невялікая максімальная гандлёвая нацэнка ў 30 працэнтаў, якую пераступіць ніяк нельга, а на шэраг сацыяльна значных тавараў, якія складаюць не менш паловы рознічнага гандлёвага абароту, — не больш 10 працэнтаў. Многія лічаць, што ў гандлі ёсць лішні «тлушч», які, адпаведна, можна «зняць». Між тым яго, гэтага «тлушчу», даўно ўжо няма, а вось праблем — з лішкам. На сённяшні дзень для нас поўнасцю стратны продаж многіх прадуктаў, у першую чаргу — тых жа сацыяльна значных. Гэта азначае, што мы нават не можам пакрыць свае выдаткі на іх дастаўку, захоўванне і рэалізацыю (будзем тут жа мець на ўвазе плату за арэнду памяшканняў, утрыманне халадзільнага і іншага абсталявання, затраты на электраэнергію і г.д.). Аналіз нашай дзейнасці паказвае, што затраты на рэалізацыю многіх тавараў складаюць 11-12 працэнтаў ад іх першапачатковага кошту, а ўстаноўленая для нас верхняя нацэначная мяжа на сацыяльна значныя тавары, нагадаю, — 10 працэнтаў. За мінулы год, які, лічу, быў асабліва нялёгкім менавіта для гандлю харчовымі таварамі, акцыянернае таварыства прадало тавараў на 527 мільярдаў рублёў, пры гэтым атрымала прыбытку непасрэдна ад гандлю імі ўсяго 237 мільёнаў, або 0,05 працэнта да агульнай сумы рэалізацыі. Пераважная ж частка прыбытку (увесь ён складае больш як 5 з паловай мільярдаў) атрымана за кошт іншых даходаў, г. зн. не за кошт нашай асноўнай дзейнасці.

Усё залежыць ад эканамічнай сітуацыі ў краіне, грунтуецца на ёй. Думаю, пакуль у нашых людзей не павысіцца істотна рэальная зарплата, і гандаль асабліва мілаваць не будуць — як зверху, так і знізу. Дарэчы, у гандлі прамысловымі таварамі сітуацыя намнога лягчэйшая — там больш высокая дазволеная нацэнка, меншыя выдаткі.

**— Апошнім часам зноў на слыху «квоты» і «фонды». Ці не вяртаемся мы такім чынам да ранейшай сістэмы размеркавання?**

— Па фондах атрымліваем прыкладна 30—40 працэнтаў асартыменту. Вядома, пэўная частка прадукцыі фандзіруецца з мэтай таго, каб дастатковая колькасць харчовых рэсурсаў заставалася ў рэспубліцы, а не вывозілася, і больш-менш раўнамерна размяркоўвалася.

**—І ў той ж час ставяцца пэўныя абмежаванні на шляху імпарту... Як ставіцеся да імпарту вы?**

— Думаю, што гандаль, які пэўным чынам прадстаўляе інтарэсы спажыўцоў, павінен і зыходзіць менавіта з іх, а дакладней з таго, каб паліцы магазінаў былі як мага больш разнастайнымі, у тым ліку і за кошт імпарту (напрыклад, хоць яны і намнога багацейшыя, чым раней, але, скажам так, месца на іх яшчэ ёсць). Галоўнае, каб тавар быў дабраякасны і як мага таннейшы. Перакрыць шлях усяму таму, што ўвозіцца, пэўным чынам абмежаваць доступ спажыўца да той ці іншай прадукцыі (як, скажам, абмежавалі ў выніку цэнавай палітыкі масавы доступ да імпартнага сухога віна) — гэта не лепшы варыянт. У пакупніка заўсёды павінен быць выбар. І як мага больш шырокі. Ды і вытворца, пра якога клапоцяцца падобным чынам, дэградзіруе пры адсутнасці канкурэнтаў. Дарэчы, айчыннаму вытворцу гандаль усё роўна выдае пэўныя «прэферэнцыі»: айчынны вытворца бліжэй, з ім спакайней працаваць. Адпаведна, і ў нашых магазінах гандлёвы абарот не менш як на 90 працэнтаў складаецца з айчынных тавараў.

**— Нямала хто з вытворцаў патрабуе папярэдняй аплаты...**

— А гандаль, у якога таксама няма лішніх абаротных сродкаў, з пакупніка папярэдняй аплаты не можа ўзяць... Папярэдняя аплата за тавар — гэта, па сутнасці, з'ява дэфіцыту і манапалізму пастаўшчыка. Калі наяве дэфіцыт і манапалізм — тады і выяўляецца падобны дыктат. Скажам, калі не хапае шампанскага і, адпаведна, усе магазіны імкнуцца яго ўзяць, тады і з'яўляецца патрабаванне папярэдняй аплаты. І, наадварот, зусім іншая сітуацыя з півам: яго ў рэспубліцы ў дастатку, розных марак і розных вытворцаў — адпаведна, апошнія не ставяць пытання і аб папярэдняй аплаце.

**— Вы з'яўляецеся старшынёй дэпутацкай камісіі гарадскога Савета па спажывецкаму рынку. Як вы ацэньваеце сённяшні стан гэтага рынку ў горадзе?**

— Паняцце «спажывецкі рынак», вядома, перш за ўсё ўключае ў сябе рознічны гандаль, насычанасць гандлёвых кропак таварамі... Найперш зазначу: на сённяшні дзень рознічны гандаль у Мінску — у пераважнай большасці ўжо недзяржаўны. І ён у цэлым нядрэнна спраўляецца з забеспячэннем жыхароў сталіцы рознымі спажывецкімі таварамі, у тым ліку харчовымі, адносна чаго была занепакоенасць на самым пачатку. Акцыяніраваны гандаль не страціў і кіруемасці, пра што таксама непакоіліся. Пры гэтым ён больш рацыянальна вядзе справу, рацыянальна размяшчае гандлёвыя аб'екты. Напрыклад, мы ў сябе не так даўно адмовіліся ад аднаго цалкам стратнага магазіна, які знаходзіўся ў раёне завулка Казлова. Там нямала іншых харчовых магазінаў, а наш пры гэтым знаходзіўся, так сказаць, наводшыбе... Тыя ж, што не ўмеюць весці справу і трапляюць у пастку банкруцтва, — самі ж (не дзяржава) пажынаюць адпаведныя плады. Як прыклад можна прывесці апісанне маёмасці магазіна, які ў мінчан атрымаў назву «Падкова» (ля кінатэатра «Мір»). Адным словам, працуюць нармальныя эканамічныя адносіны, і яны не шкодзяць выкананню гандлем яго адказнай задачы па забеспячэнню насельніцтва таварамі, а толькі садзейнічаюць гэтаму.

Чаго хацелася б?

Большай стабільнасці, а дакладней таго, каб палітыка ў адносінах да гандлю (справа датычыць вызначэння тых жа гандлёвых нацэнак, сум арэнднай платы, якія, напрыклад, летась мяняліся на працягу года) была больш прадказальнай, што дазваляла б дакладна прагназіраваць усю дзейнасць.

## НЕАБХОДНАЕ ДАПАЎНЕННЕ

**Варта ўдакладніць асобныя моманты, закранутыя генеральным дырэктарам ААТ «Постгандаль». Ім, у прыватнасці, прыводзіліся наступныя лічбы: за мінулы год ААТ атрымала непасрэдна ад гандлю ўсяго 237 мільёнаў прыбытку, г. зн. атрымала непасрэдна ад таго віду дзейнасці, якім і павінна займацца, па сутнасці, цалкам і без выключэння. ААТ, такім чынам, можна лічыць, амаль звяло канцы з канцамі. І 5,5 мільярда атрыманы ад іншых відаў дзейнасці. Ад якіх? У асноўным ад збору шклатары ды пераацэнак прадукцыі, якія былі на працягу года. А, скажам, каб не было такіх пераацэнак?.. Пры падобным раскладзе ААТ можа чакаць не зусім светлая перспектыва, ва ўсякім разе, яму цяжка будзе выжываць і развівацца, у прыватнасці, праводзіць далейшую рэканструкцыю сваіх гандлёвых аб'ектаў, што яно паспяхова рабіла ў ранейшыя гады. І справа ў дадзеным выпадку датычыць не толькі ААТ «Постгандаль», а ўсяго рознічнага гандлю харчовымі таварамі, справа ў канчатковым выніку датычыць нашага ж бесперабойнага забеспячэння гэтымі таварамі ў далейшым, захавання гандлем цывілізаванага, прыстойнага выгляду (гэта, па сутнасці, твар дзяржавы), які ён пачаў набываць апошнім часам.**

**Вядома, усё пачынаецца з рэгулявання гандлёвых нацэнак і саміх цэн, тых жорсткіх умоў, у якія пастаўлены гандаль. Як зазначалася ўжо, гандлю харчовымі таварамі вызначылі верхнюю мяжу нацэнкі ў 10 працэнтаў на сацыяльна значныя тавары, якія складаюць не менш паловы гандлёвага абароту, і ў 30 працэнтаў — на астатнія — у іх ён, ужо цалкам відавочна, уціскваецца з надзвычайнай цяжкасцю. Пры гэтым, зафіксаваўшы на зусім невялікім узроўні вышэйшую гандлёвую нацэнку, не зафіксавалі асноўныя выдаткі гандлю — арэндная плата і ўтрыманне памяшканняў, транспартныя і іншыя расходы ўзраслі за мінулы год амаль у 2 разы (дарэчы, на гэты год арэндная плата зменшана).**

**Нягледзячы на тое, што ў мінулым годзе ў ААТ «Постгандаль» гандлёвы абарот павысіўся (у супастаўных цэнах) на 7,6 працэнта, балансавы прыбытак, тым не менш, рэзка знізіўся, — на 16,6 працэнта; тут, адпаведна, склалася адносна невялікая сярэднямесячная зарплата (крыху больш за 2 мільёны рублёў)...**

**Гандаль амаль пазбавілі манеўру. Напрыклад, ён не можа ўзяць прапануемы пастаўшчыком тавар, калі адпускная цана на апошні будзе перавышаць на 2 працэнты (вызначаны максімальны рубеж месячнай інфляцыі) ранейшую цану. Але цалкам абгрунтаванае імкненне ўтаймаваць цэны (у тым ліку, як зразумела ўжо, за кошт гандлю) можа выклікаць скрытую інфляцыю, якая добра вядомая ранейшымі чэргамі...**

**Кіраўніцтва ААТ спадзяецца, што гэтыя цяжкасці часовыя: істотна палепшацца справы ў эканоміцы — уздыхне лягчэй і гандаль, на яго звернуць адпаведную ўвагу.**

**Аднак, відаць, гэту ўвагу трэба звярнуць ужо цяпер. Нельга ставіць суб'екты гаспадарання ў заведама непрымальныя эканамічныя ўмовы, у якіх любое майстэрства можа аказацца бездапаможным.**



● У магазіне № 14. Прадаўшчыцы Наталля ЛАШУК, Людміла ГУЛЕВІЧ, Наталля МІХАЙЛОЎСКАЯ.

**Амаль усе людзі, у тым ліку і наркаманы, лічаць наркотыкі атрутай. Тым не менш зараза распаўсюджваецца. Прычын гэтаму шмат: беспрацоўе, падзел на бедных і багатых, міграцыя... Летась у Мінску зарэгістравана каля 700 наркаманаў (каб убачыць рэальную карціну, афіцыйныя даныя можна смела памножыць на 10). У краіне — 3794. Ёсць попыт на тавар, таму і спрытныя гандляры знойдуцца. Беларусь не можа быць не ўцягнутай у міжнародны наркабізнес. Пытанне: у якой ступені? Карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з начальнікам упраўлення па незаконнаму абароту наркотыкаў МУС Беларусі Анатолем БУРЫМ.**

# ШЛЯХІ «БЕЛАЙ СМЕРЦІ» НЕ АБМІНАЮЦЬ І БЕЛАРУСІ

**Начальнік упраўлення па незаконнаму абароту наркотыкаў МУС Беларусі Анатоль БУРЫ лічыць, што наркамафіі ў нас няма, хаця колькасць наркаманаў пастаянна расце.**

— Абарот наркотыкаў пастаянна павялічваецца, — расказвае Анатоль Іванавіч. — Калі параўнаць мінулы год з 1996-м, то можна заўважыць і элементы арганізаванага наркабізнесу. Вядома, не ў такім маштабе, як прынята гаварыць пра сусветную наркамафію. Але хвалюе, што ўзрастае колькасць гатовых формаў наркотыкаў. У 1996-м канфіскавалі 97 кілаграмаў, летась — ужо 219. Бытавая наркаманія, калі самі гатавалі і спажывалі, пераходзіць у іншую форму. Наркаман становіцца пакупніком. Сведчанне таму і сёлетні студзень. Гатовых формаў наркотыкаў канфіскавана ў два разы болей, чым за той жа перыяд мінулага года.

**— Так званыя гатовыя формы, ці як іх называюць самі наркаманы «сінтэтыка», найчасцей вырабляюць у нас ці завозяць?**

— Гледзячы якія. Напрыклад, экстрацыйны опій можа і ў нас рыхтавацца. Гераін і какаін цалкам завазны. Каноплі сеюць і ў Беларусі. Ёсць спробы вырабу сінтэтычных наркотыкаў групы экстазі.

## З ДАСЬЕ «ЗВЯЗДЫ»

### СІНТЭТЫЧНЫЯ НАРКОТЫКІ

***Іх яшчэ называюць амфітамінамі. Гэта наркатычныя рэчывы, здабытыя хімічным шляхам. Упершыню былі прыменены ў Еўропе падчас першай сусветнай вайны. Іх давалі салдатам, каб тыя не адчувалі стомы. Пасля трымаліся ў аптэчках пад назвай «первіцін». Адсюль слэнгавая назва — «вінт». «Вінтавыя» могуць начамі не спаць, нічога не есці. Калі арганізм вычэрпвае свае магчымасці, пачынаецца глыбокая дэпрэсія. Усё выглядае жахлівым. Пачынаюцца розныя фобіі накшталт «белых коней» у алкаголікаў. Экстазі (exstasi) — лідэры сярод наркотыкаў гэтай групы. На ўпакоўках стаяць розныя знакі. Калі намалявана «галубка» — значыць дабаўлены гераін. Ёсць яшчэ «дракончык», «долар», «плэйбой».***

***Параўнальна нядаўна ў аэрапорце «Мінск-2» быў затрыманы грамадзянін ЗША. Падчас мытнай праверкі ў яго знайшлі баявыя патроны. Увагу звярнулі на незвычайныя лісткі. Экспертыза паказала: яны ўтрымлівалі 200 доз ЛСД — прапітаную дыцыламідам лізергінавай кіслаты прамакашку. Гэты наркотык забаронены нават для даследчых медыцынскіх мэтаў у лабараторных умовах.***

**— Анатоль Іванавіч, якія наркотыкі ў нас найбольш распаўсюджаныя?**

— Наркотыкі опійнай групы. І зноў жа: змяншаецца спажыванне вырабаў з макавай саломкі, а ўзрастае кантрабанда гатовых формаў: опію-сырцу, гераіну.

**— Колькі яны каштуюць?**

— Кошт аднаго грама гераіну на «чорным рынку» — 100 долараў.

## З ДАСЬЕ «ЗВЯЗДЫ»

### ОПІЙ

***Найбольш распаўсюджаныя рэчывы групы опійных — гераін, марфін, опійны раствор «чарняшка». Гераін прадаюць у «шарах» альбо «чотках». Самы танны — «шэры» гераін, які разбаўляюць «бурой» ці цукровай пудрай. Гэта прыправа дае самую страшную «ломку». «Бурой», напрыклад, называюць прэпарат, якім выводзяць тараканаў. Дарэчы, тых, хто колецца опіем, можна вызначыць па санлівасці. Могуць драмаць у любой кампаніі. Прачнуўшыся, робяць неасэнсаваныя рухі, тыцкаюць сабе цыгарэтай у рукі.***

**— Анатоль Іванавіч, ясна, што Беларусь можна аднесці да краін — спажыўцоў наркотыкаў. Напэўна яшчэ і да транзітных. А як наконт сыравіны беларускага паходжання?**

— Беларусь можна аднесці да ўсіх пералічаных вамі класіфікацый. 35 працэнтаў увозімай да нас макавай саломкі трапляе з Украіны. Але і затрымліваем дзесяткі чалавек, што прыязджаюць купляць сыравіну сюды. Нашых грамадзян арыштоўвалі з наркотыкамі ў Турцыі, Бразіліі, Іспаніі. Летась выяўлены 33 факты кантрабанды. Вываз склаў 11, транзіт — 5. Канфіскавана 100 кілаграмаў наркатычных рэчываў. Затрымана пяцёра грамадзян Беларусі, столькі ж з Расіі, 6 — з Украіны, 5 чалавек з іншых краін.

**— Наколькі ведаю, міжнароднымі наркакур'ерамі ў Расіі найчасцей выступаюць нігерыйцы. А ў нас?**

— Нігерыйцы ўвогуле ў свеце лічацца асноўнымі перавозчыкамі наркотыкаў. Некаторыя з іх, што жылі ў Беларусі, затрымліваліся ва Украіне. Былі з іхняга боку спробы перапраўляць наркотыкі і сюды. Але галоўную цікавасць для наркабаронаў маюць вялікія гарады. Такія як Масква.

**— Якія сацыяльныя ці этнічныя групы займаюцца ў Беларусі наркабізнесам?**

— Самі наркаманы складаюць 35 працэнтаў, 23 — прадстаўнікі групы цыганоў, 21 — асобы азіяцкіх нацыянальнасцяў, астатнія — тыя, хто імкнецца прыдаць гэтаму бізнесу арганізаваны характар.

**— Значыць, можна казаць, што ў нас ёсць наркамафія?**

— Не. Існуюць толькі спробы яе арганізацыі.

**— Надзіва вялікі працэнт прадстаўнікоў цыганскай нацыянальнасці...**

— Менталітэт. Не баюся быць абвінавачаным у нейкім шавінізме, бо факты і лічбы гавораць самі за сябе.

## З ДАСЬЕ «ЗВЯЗДЫ»

***Год таму была ліквідавана адна з кропак збыту наркотыкаў. Гаспадыняю там была цыганка Надзя. Разам з ёю ў бізнесе ўдзельнічалі дзве «наркабаранесы» — Люда і Ляля. Кватэра на вуліцы Ангарскай, якую наведалі работнікі праваахоўных органаў, акрамя звычайнага цыганскага шумнага каларыту мела асаблівасць: у адным з пакояў было мноства рэчаў, аўдыё- і відэаапаратуры. Так кліенты разлічваліся за наркотыкі. Іх у ходзе следства выяўлена 13 чалавек. Колькі не трапіла ў поле зроку спецслужбаў і міліцыі — застаецца толькі здагадвацца. Прыкладна ў той жа час у аднаго з цыганоў было знойдзена 30 кілаграмаў нарказелля. Аўтару гэтых радкоў не раз даводзілася і самому чуць ад вадзіцеляў таксі, што яны возяць наркаманаў на вуліцы Ангарскую, Байкальскую, Енісейскую, дзе жыве шмат цыганоў.***

**— Які сацыяльны статус збытчыкаў наркотыкаў?**

— Радуе, што мала навучэнцаў і студэнтаў. Большасць гандляроў — раней судзімыя і тыя, пра каго казаў вышэй. У нас прынята адпаведная дзяржаўная праграма, зацверджаная Кабінетам Міністраў. У ёй тры раздзелы: арганізацыйныя мерапрыемствы, звязаныя з прафілактыкай і лячэннем, накіраваныя супраць незаконнага абароту наркотыкаў. Да рэалізацыі праграмы далучаны міністэрствы і ведамствы, якія ўваходзяць у міжведамасную камісію па барацьбе са злачыннасцю і распаўсюджваннем наркаманіі. Прыемна зазначыць, што вызначаныя кірункі рэалізоўваюцца.

**— Якія з раённых гарадоў найбольш вызначаюцца ў плане наяўнасці наркаманаў?**

— Вядома, Светлагорск.

## З ДАСЬЕ «ЗВЯЗДЫ»

***У сярэдзіне 1980-х група юнакоў са Светлагорска накіравалася ў Ленінград на вучобу. У хуткім часе яны вярнуліся. Але вызначаліся не набытымі ведамі, а досведам адносна вырабу наркотыкаў. Светлагорск — горад хімікаў, таму сыравіну здабыць было няцяжка. Неўзабаве горад стаў наркацэнтрам Беларусі. А пасля СНІДу. Адбылося тут шмат трагедый. Напрыклад, 16-гадовы хлопец за тое, што яго адгаворвалі нюхаць растваральнік, забіў адну дзяўчыну, а другую пакалечыў.***

**— Акрамя Светлагорска ці ёсць яшчэ «наркаперыферыі»?**

— Так. З'яўляюцца і новыя: Салігорск, Пінск, Ліда.

**— Чым можна патлумачыць выбар менавіта гэтых гарадоў?**

— Тут жыве шмат моладзі, тым яны і цікавыя для гандляроў наркотыкамі. З улікам сітуацыі створаны 5 новых падраздзяленняў: у Жлобіне, Мазыры, Салігорску, Пінску і Смаргоні. Апошні горад выбраны таму, што знаходзіцца недалёка ад Літвы.

**— Якія з леташніх аперацый найбольш запомніліся?**

— У поле зроку нашых работнікаў трапілі два ўраджэнцы Таджыкістана і Карачаева-Чаркесіі. Прывезлі гераін. Звязаліся з нашымі грамадзянамі. Шукалі не толькі шляхі збыту, але і транзіту далей у Еўропу. Затрымалі іх, канфіскавалі 600 грамаў гераіну. Злачынцы збіраліся яго прадаць за 40 тысяч долараў. Праводзілі комплексную аперацыю з украінскімі калегамі. За тры дні выявілі 200 кілаграмаў макавай саломкі.

**— Анатоль Іванавіч, вы, бясспрэчна, усё пракантраляваць не можаце. Наколькі рэальная магчымасць стварэння наркалабараторыі накшталт выяўленай у Віцебску?**

— Той выпадак якраз і пацвердзіў: сітуацыя знаходзіцца пад кантролем. Выраблена было ўсяго 150 грамаў наркотыку. Але ж не тоны! Мы не збіраемся вырошчваць наркабаронаў.

## З ДАСЬЕ «ЗВЯЗДЫ»

***Гісторыю пра знойдзеную ў будынку Віцебскага медінстытута хімічную лабараторыю, дзе выраблялiся сінтэтычныя наркотыкі, чытачы напэўна памятаюць. Некаторыя дэталі ўсё ж нагадаем. Лабараторыя існавала пры кафедры судовай таксікалагічнай і фармацэўтычнай хіміі, якой кіраваў Васіль Фадзееў. Калісьці пад кіраўніцтвам Маскоўскай медыцынскай акадэміі ён распрацоўваў стандарты некаторых наркатычных рэчываў. Зразумела, для медыцынскіх мэтаў. Гэтыя работы вяліся і пасля распаду СССР. З'явіўся ў яго і памочнік. А разам з ім у Віцебскай вобласці з'явіўся і наркотык фенцыклідзін. Неўзабаве лабараторыю наведалі работнікі спецслужбаў. З вобыскам. Цяжка было даказаць віну, бо «вучоныя» даводзілі, што выраблялі не наркатычнае рэчыва. Але была даказана не толькі гэта віна, але і тое, што шпаркімі тэмпамі ішоў пошук сувязяў з наркамафіяй.***

**— Анатоль Іванавіч, ужо відавочна: шляхі «белай смерці» не абмінаюць Беларусь. У чым вы бачыце першачарговыя задачы па спыненню ці прадухіленню наркабізнесу?**

— Моцна спадзяюся на пазітыўныя зрухі ў сувязі з дзяржаўнай праграмай, пра якую казаў раней. Вялікае значэнне для недапушчэння прывозу ў Беларусь наркотыкаў бачу ў кантактах з калегамі Украіны і Расіі. Больш шчыльна збіраемся працаваць з мясцовай уладай. Маю на ўвазе кантроль за пасевамі, якія ўтрымліваюць наркотыкі. Нашы каноплі не дужа адрозніваюцца ад азіяцкіх. Вядома, будзем кантраляваць розныя лабараторыі, каб не дапусціць вырабу сінтэтычных наркотыкаў на нашай тэрыторыі. Неабходна і належная прафілактычная работа.

**Гутарыў Міхал ТАЛОЧКА.**

# ТУРМА — НЕ ЛЕКІ ДЛЯ АБЛУДНЫХ ДУШ

Неяк я наведала гродзенскую турму, дзе адбываюць пакаранне асабліва небяспечныя злачынцы. Памятаю, увесь час фізічна адчувала моцны псіхалагічны ціск, сцены турмы нагадвалі бязлітасны прэс, адзіная мэта якога — расціснуць усіх, хто пад ім. У маленькіх камерах — па 12—14 асуджаных. Адсюль — недахват спальных месцаў. Зняволеныя, каб не спаць па чарзе, прыладжваюць паміж двух'яруснымі ложкамі драўляныя стэлажы, а раніцай прыбіраюць. У сувязі з востай няхваткай сыравіны і рознымі эканамічнымі няўвязкамі працай забяспечана толькі трэцяя частка асуджаных (у мінулым годзе ў турме Гродна адбывалі пакаранне больш за 1000 чалавек). Аднак, бадай, самая складаная праблема ў адміністрацыі — якім чынам выплаціць запазычанасць арганізацыям і прадпрыемствам за прадукты харчавання і камунальныя паслугі? Праблемы павуціннем аплялі ўсю папраўчую сістэму.

Вось такія думкі нахлынулі, калі я пачула выступленне начальніка Камітэта па выкананню пакаранняў палкоўніка міліцыі Уладзіміра Хамлюка на нядаўняй калегіі МУС Рэспублікі Беларусь.

Становішча зняволеных паранейшаму застаецца складаным і напружаным, што ў першую чаргу звязана з павелічэннем колькасці спецкантынгента на 3,4 працэнта. На сённяшні дзень за кратамі ўтрымліваецца звыш 58 тысяч асуджаных, і гэта пасля нядаўняй амністыі! Перанасычанасць у папраўча-працоўных калоніях складае 47 працэнтаў, у следчых ізалятарах і турмах — 56. У сярэднім штомесячна ў 1997 годзе ў ППК трапляла больш за 2 тысячы чалавек. Найбольш сур'ёзная абстаноўка ў ППК узмоцненага рэжыму: колькасць зняволеных у 2 разы перавышае ліміт напаўнення.

Трывогу выклікае захворванне на сухоты. Летась у спецкантынгента выяўлена каля 2 тысяч выпадкаў з актыўнай формай туберкулёзу. Рэзка абвастрылася сітуацыя з ВІЧ-інфіцыраванымі. Калі на пачатак 1996 года было зарэгістравана двое з такім дыягназам, то зараз — 450. Цяпер 26,4 працэнта ад агульнай колькасці носьбітаў чумы XX стагоддзя, зарэгістраваных у краіне, знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі. Каб крыху стабілізаваць становішча ў ППК, на базе былых ваенных гарадкоў створаны калоніі-пасяленні. Усяго там утрымліваецца каля 700 зняволеных, якія, да таго ж, забяспечаны працай. Спадабалася прапанова Уладзіміра Хамлюка перадаць у Міністэрства аховы здароўя функцыі лячэння ад алкагалізму і наркаманіі. І гэта — не выпадкова. Алкагалізм і наркаманія — захворванні, якія неабходна лячыць, а лекаў у адміністрацыі ЛПП няма. Між тым, чаму б не прыстасаваць гэтыя ўстановы для ўтрымання зняволеных?

Начальнік Камітэта па выкананню пакаранняў заўважыў таксама, што як мага хутчэй неабходна сумесна з пракуратурай, Вярхоўным судом Рэспублікі Беларусь адладзіць сістэму па рэзкаму скарачэнню мераў пакарання, звязаных з пазбаўленнем волі за злачынствы, якія не ўяўляюць вялікай грамадскай небяспекі. Неабходна ўвесці практыку інстытута залогу, калі парушальнік закона за пэўную грашовую суму да суда вызваляецца з-пад арышту.

А думкі зноў вяртаюцца да падзей у гродзенскай турме. Тады моцна ўразілі радкі аднаго зняволенага да сваёй каханай: «На маю думку, самая лютая кропка на планеце знаходзіцца менавіта тут, у турме. Гэта акула, якая хціва глытае і крэмзае чалавечыя душы».

Вядома ж, нельга забываць і тое, што калі-небудзь былыя асуджаныя вернуцца да нас. Людзі пажадаюць пачаць жыццё нанова, з чыстай паперы. А як і хто дапаможа ім у гэтым? Турма — не лекі для аблудных душ. Гэта пакаранне. Але яно не павінна ў чалавеку канчаткова забіваць чалавека.

**Алена УЛАДЗІМІРАВА.**



**Нягледзячы на тое, што орган, які ўзначальвае ў Палаце прадстаўнікоў дэпутат Юрый Кулакоўскі, называецца Камісіяй па правах чалавека і нацыянальных пытаннях, асноўнай тэмай нашай размовы былі праблемы крыху іншага характару. Камісія, акрамя памянёных, курыруе яшчэ і пытанні дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі. А ўлічваючы, што менавіта яны апошнім часам даволі часта былі ў цэнтры ўвагі грамадства, вакол гэтага і завязалася гутарка.**

**На пачатку яе мы вярнуліся да нядаўна прынятых паправак у Закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Як вядома, у канцы мінулага года тэкст закона, выпрацаваны пагаджальнай камісіяй, быў зацверджаны абедзвюма палатамі парламента.**

# Юрый КУЛАКОЎСКІ: «МЕРА ДАЗВОЛЕНАГА ДЛЯ ЖУРНАЛІСТА ВЫЗНАЧАЕЦЦА НЕ ТОЛЬКІ МЯЖОЙ ЗАКОНА, АЛЕ І МАРАЛЬНЫМІ НОРМАМІ ГРАМАДСТВА»

— Я ПАВІНЕН нагадаць перадгісторыю ўзнікнення, у прыватнасці, тых «страсцей», якія некаторыя палітычныя сілы спрабавалі разыграць паміж палатамі парламента падчас абмеркавання паправак. З самага пачатку я не бачыў у вяртанні законапраекта чагосьці звышардынарнага, таму, у адрозненне ад многіх маіх калег, паставіўся да гэтага факта спакойна і ўраўнаважана. Я застаюся прыхільнікам двухпалатнага парламента і перакананы, што менавіта падобная сістэма заканатворчай работы і такая практыка ўзаемаадносінаў паміж палатамі павінны ляжаць у аснове стварэння законаў, якія б адлюстроўвалі сапраўднае жыццё, якія б не былі адарваныя ад рэальных патрэб грамадства. Нельга сказаць, што наша камісія бяздзейнічала і нешта недапрацавала на першапачатковым этапе, але калі так атрымалася, што законапраект вярнулі нам, то, згодна з Канстытуцыяй, спрэчныя пытанні вырашала пагаджальная камісія. Яна дала сваё заключэнне, і канфлікт быў вычарпаны. Былі разгледжаны ўсе заўвагі Савета Рэспублікі, і амаль з усімі члены двухбаковай камісіі пагадзіліся, таму ў некаторых выпадках фармулёўкі змяненняў у закон былі цалкам перайначаны, што, зразумела, палепшыла іх змест. Напрыклад, мы абмежавалі мінімальную колькасць нумароў выданняў, для якіх не патрэбна рэгістрацыя, 300 экземплярамі.

**— Дарэчы, як з'явілася менавіта лічба 300?**

— Мы спыніліся на ёй з улікам становішча ў малатыражках, хаця трэба сказаць, што абмежаванне ніякім чынам іх не датычыцца. Проста на іх прыкладзе ды на прыкладзе насценных газет нашы апаненты часта спекулявалі. Мы ж зыходзім з рэальнага жыцця. Пагадзіцеся, што ў выхадных даных можна напісаць «299 экземпляраў», а на справе надрукаваць і пяцьсот, і восемсот.

**— А чаму 500 экземпляраў было шмат?**

— Бо такую колькасць паасобнікаў ужо цяжка ўлічыць. Чым больш нумароў надрукавана, тым складаней іх пры неабходнасці кантролю будзе сабраць. Таму мы і палічылі, што выхад 300 паасобнікаў яшчэ можна нейкім чынам пракантраляваць.

**— Але гэта прынцыповае пытанне, і мне здаецца, такая норма будзе выступаць сур'ёзным абмежаваннем, прычым наўрад ці абгрунтаваным. Напрыклад, у Мінскім метро рэкламнымі агенцтвамі рэгулярна выпускаюцца насценныя газеты, якія маюць пастаянную назву і парадкавы нумар, што робіць іх перыядычнымі выданнямі. Яны расклейваюцца па дватры экземпляры ў кожным вагоне. А калі ўлічыць, што ў дэпо 37 цягнікоў, то пасля нескладаных арыфметычных дзеянняў мы атрымаем, што гэтыя газеты друкуюцца тыражом ад 300 да 450 экземпляраў. Няўжо і іх, згодна з папраўкай, прыйдзецца рэгістраваць?!**

— Так. Альбо рэгістраваць, альбо іх аўтарам прыйдзецца скарачаць тыраж да 299 экземпляраў.

**— Але вось яно — беспадстаўнае штучнае абмежаванне. Ці ёсць здаровы сэнс у рэгістрацыі насценнай газеты?**

— Ведаеце, 300—450 асобнікаў — гэта ўжо не насценная газета...

**— Яна такая па сутнасці.**

— Вы пагадзіцеся, што любая інфармацыя нясе нейкі зарад і ўплывае на погляды, пачуцці людзей, прымушае іх рэагаваць і дзейнічаць.

**— Аднак гэта і ёсць функцыянальныя абавязкі газеты.**

— Вось у такім разе выданне няхай рэгіструецца і выходзіць такім тыражом, які задавальняе яго аўтараў.

**— Пасля знаёмства з некаторымі палажэннямі канчатковага варыянта закона складваецца ўражанне, што камісія змяніла толькі фармулёўкі некаторых паправак, пакінуўшы ранейшай іх сутнасць. Вы згодныя з такой высновай?**

— Мне цяжка разважаць адносна гэтага, паколькі спрэчкі вяліся вакол кожнай папраўкі. І я не выключаю, што, сапраўды, адносна некаторых змяненняў з такім сцвярджэннем можна пагадзіцца. Нам было прадстаўлена некалькі заўваг па стылістыцы паправак, і мы іх удакладнілі. Таму дзесьці адзін і той жа змест выкладаецца цяпер іншымі словамі.

**— Хацеў бы пацікавіцца, як вы паставіліся да ўказа прэзідэнта адносна абавязковасці рэагавання на крытычныя выступленні дзяржаўных СМІ?**

— Я цалкам падтрымліваю ўказ. Калі вы памятаеце маё першае інтэрв'ю на цяперашняй пасадзе, я выказаў яшчэ тады жаданне замацаваць падобную норму ў законе. Справа ў тым, што менталітэт нашых людзей такі, што газета для іх не звычайная чытаніна. Яны вельмі высока цэняць друкаванае слова. Калі газета выступіла — значыць гэта закон...

**— Прабачце, раней цанілі, але не зараз.**

— Правільна. Зараз аўтарытэт газет і тэлебачання ўпаў. Таму яго неабходна паднімаць, каб адказнасць за друкаванае слова была высокай, як у ранейшыя часы, каб такой жа была і сіла прэсы, каб на яе выступленні была дзейсная рэакцыя. А то ваша дзейнасць нагадвае сёння страляніну з гарматы па вераб'ях. Вы ўсё пішаце, а на гэта ніхто не звяртае ўвагі, таму і чытачы расчараваліся ў вас. Мяркую, гэтым указам прэзідэнт павышае аўтарытэт прэсы, і я хацеў бы, каб гэта датычылася не толькі дзяржаўных газет. Дарэчы, звяртаюся праз вас да ўсіх адказных асоб, каб яны ўсвядомілі, што за газетай стаяць людзі — журналісты і чытачы, дзеля якіх яны працуюць. Вядома, я ўпэўнены, што многія дзяржчыноўнікі адмоўна ўспрынялі новаўвядзенне.

**— Не здарыцца так, што журналісты, аддаючы велізарную частку свайго часу рабоце з пісьмамі, той рабоце, якой павінны займацца зусім іншыя органы, урэшце ператворацца ў следчых, чыноўнікаў, клеркаў, а то і бюракратаў?**

— Магчыма. Але я перакананы, што карысць ад указа будзе значна большай, чым магчымая шкода. Больш таго, вы не толькі здолееце аднавіць ранейшы імідж абаронцаў простага чалавека. Вам пачнуць верыць, вас пачнуць чытаць, паднімуцца тыражы і аўтарытэт сродкаў масавай інфармацыі. Нарэшце, аднаўляецца ваша права называцца чацвёртай уладай.

**— Але ў гэтым выпадку ўзрасце і ціск на журналістаў з боку тых, каго яны будуць крытыкаваць. Калі раней крытыку не заўважалі, то зараз за яе могуць помсціць.**

— Гэта абавязкова будзе. Многія чыноўнікі адвыклі ад крытыкі, таму зараз яны вельмі нервова ўспрымаюць яе. Журналіста тут можа абараніць толькі закон. Закон, яго калегі і зноў жа прэса.

**— А калі журналісты паспрабуюць крытыкаваць, напрыклад, прэзідэнта ці іншых асоб, «статус якіх вызначаны Канстытуцыяй» і якіх, паводле новых паправак, нельга крытыкаваць?**

— Стоп. Вось гэтага закон не забараняе. Ён забараняе распаўсюджваць звесткі, якія зняслаўляюць гонар і годнасць кіраўнікоў дзяржаўных органаў, статус якіх вызначаны Канстытуцыяй. Прычым распаўсюджваць звесткі, якія не адпавядаюць рэчаіснасці.

Гутарыў
Юрась ЛЯШКЕВІЧ.

## СПРАВА ДВУХГАДОВАЙ ДАЎНАСЦІ АТРЫМАЛА НОВЫ ПАВАРОТ

Калегія Гомельскага абласнога суда па грамадзянскіх справах прыняла да разгляду пратэст пракурора транспартнай пракуратуры Віталя Канцэвіча, які не пагадзіўся з рашэннем суда Цэнтральнага раёна абласнога цэнтра, вынесеным па іску шатландскай грамадзянкі Луіз Макдональд.

Сутнасць справы такая: амаль два з паловай гады таму ў горадзе на Сожы здарылася трагедыя. У час купання пад грабны вінт цеплахода аб'яднання «Белводшлях» трапілі прадстаўнікі шатландскага горада Абердзіна — намеснік мэра Дэвідсан Х'юз і загадчык аддзела навакольнага асяроддзя Іэн Макдональд, якія прыбылі ў Гомель па запрашэнню мясцовага гарвыканкама. Гэта было ў час пікніка, арганізаванага гаспадарамі. Напалоханыя тым, што здарылася, абодва бакі паспрабавалі як мага хутчэй замяць інцыдэнт, тым больш што і загінуўшыя ў дзень трагедыі былі падпіўшы.

Не выказалі якіх-небудзь сур'ёзных заўваг і шатландскія афіцыйныя і следчыя органы, якія прыбылі ў Гомель для разбору. Кампраміснае рашэнне, здавалася, знайшла і судовая калегія па крымінальных справах Гомельскага абласнога суда, прыгаварыўшы капітана цеплахода да трох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем тэрміну ўмоўна. І вось справа атрымала новы паварот. Удава Іэна Макдональда прад'явіла аб'яднанню «Белводшлях» іск аб выплаце кампенсацыі ў сувязі са смерцю карміцеля. У загінуўшага засталося двое малалетніх дзяцей. У адпаведнасці з беларускім заканадаўствам, суд Цэнтральнага раёна задаволіў іск удавы. Памер кампенсацыі, якую яна павінна атрымаць, — больш за тры з паловай мільярды беларускіх рублёў. Для бюджэтнай, да таго ж стратнай, арганізацыі такая сума, вядома, не па кішэні.

На думку юрыстаў, наўрад ці варта спадзявацца на поўную адмену прыгавору, бо для гэтага практычна няма падстаў. У лепшым выпадку можа быць зменена сума кампенсацыі.

Віктар КОТАЎ,
БЕЛТА.

## ШАХМАТЫ

*Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА*

### ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ

Заданне № 5



**Белыя:** Кре7, Ла3, Лс4, Сb5 (4). **Чорныя**: Кре5 (1). **Мат за 2 хады.**

Заданне № 6



**Белыя:** Крh1, Фа6, Се3, Кс4, п.f2 (5). **Чорныя**: Крd5, п.е7 (2). **Мат за 3 хады.**

### РАШЭННЕ ЗАДАННЯЎ НАВАГОДНЯГА КОНКУРСУ

Прыводзім рашэнні конкурсных заданняў, якія былі апублікаваны ў «Звяздзе» 3 студзеня г. г.

**№ 1**. 1. Ch3! - 2. Фе6х.

**№ 2.** 1. Фе4! - 2. Фе1+; 1... Кс2 2. Фg4+; 1... Kf3 2. Ф:d3; 1... Kg2 2. Ф:g2.

**№ 3.** 1. Крd7! цугцванг. 1... Крс4, Кре4, Крd5 2. d4! - 3. Фd3; 1... Ка7, Кbd6 2. Фа1+ - 3. Фе5; 1... Kg7, Kh6, Kh4 2. Фg1+ - 3. Фе5.

**№ 4**. 1. Се7+ Крf7 2. Сb3+ Кре8 3. Са4! Ch8! 4. С:b5+ Крf7 5. Сс4+ Крg7 6. d7! а1Ф 7. Cf8+! Крf6 8. d8Ф+ і белыя выйграюць. 1. d7? Сс3! 2. Cg5 Са5 3. Cf6 Крf7 4. Са1 Кре7 5. Са4 Сс3! і нічыя.

**№ 5.** Самае цяжкае заданне конкурсу, у якім большасць удзельнікаў пры рашэнні прыйшла да наступнай пазіцыі: **белыя**: Крb2, Лс3, Лс5, п.с2 (4); **чорныя**: Крb6, Фg4, п.g5 (3), але далей іх думкі разышліся.

Запрашаем удзельнікаў конкурсу зноў грунтоўна прааналізаваць вышэй прыведзеную пазіцыю і на працягу двух тыдняў выказаць сваё меркаванне. У пазіцыі — ход белых.

Адказы на заданні даслалі наступныя ўдзельнікі: Л. Ахрэм, А. Дзюрбейка, В. Леўчанка і А. Стаўскі (Мінск), У. Барысёнак (Ушацкі раён), П. Бурачэўскі (Валожынскі раён), Г. Заўялаў (Аршанскі раён), В. Здановіч (г. Масты), М. Клешч (г. Навагрудак), І. Кавалышын (Вілейскі раён), У. Карпаў (Лунінецкі раён), І. Козел (Мазырскі раён), А. Рашчынскі (г. Смалявічы), Ф. Рашэцкі, І. Цялятнікаў (г. Рагачоў), в. Лобан і М. Кулак (Любанскі раён), Ю. Галудовіч (Клецкі раён) і іншыя.

Атрымаўшы адказы на заданне № 5, мы паведамім імёны пераможцаў навагодняга конкурсу.

### ЮБІЛЕЙНЫ КОНКУРС ВАЛЯНЦІНА РУДЭНКІ

Украінскімі шахматнымі, камерцыйнымі і грамадскімі арганізацыямі аб'яўлены конкурс, прысвечаны 60-годдзю міжнароднага гросмайстра Валянціна Фёдаравіча Рудэнкі.

Спаборніцтва праводзіцца па 3 раздзелах: двух-, трохходоўкі (суддзя — юбіляр) і эцюды (С. Ткачэнка).

У кожным раздзеле ўстаноўлены прызавы фонд 200, 150 і 100$ ЗША. Устаноўлены спецпрызы: за распрацоўку тэмы Рудэнкі (па 100$ ЗША), у трохходоўках — за распрацоўку «парадокс Рудэнкі») і за перамену матаў з паўторнай пагрозай ў форме мердзыта (усяго 300$ ЗША).

Творы на дыяграмах патрэбна дасылаць да 1.03.1998 г. на адрас дырэктара конкурсу: Украіна, 252186, Кіеў-186, а/с 47, Е. Рейцэну, з паметкай «Рудэнка-60».

36,6

## Гэта вам не ёлкі-палкі!

**Кожны месяц паўтараю спецыяльную працэдуру, якая дае мне магчымасць умацаваць імунную сістэму, абараніцца і ад неспрыяльнай экалагічнай абстаноўкі, і ад адмоўнага ўздзеяння на мой арганізм і душу нядобрых людзей.**

Трэба ўласнымі рукамі сарваць з яловай галінкі іголкі ў колькасці, якая ўдвая перавышае ваш узрост, добра прамыць іх халоднай вадой. Затым пакласці гэтыя іголкі ў медную посудзіну і заліць адной шклянкай старанна пракіпячонай вадой. Затым ухутаць пасудзіну чым-небудзь цёплым і даць настаяцца трыццаць хвілін. Пасля гэтага дабавіць дробку звычайнай кухоннай солі (у дадзеным выпадку ёдаваная не падыходзіць), зноў ухутаць. Праз гадзіну добра ўзбоўтаць або перамяшаць атрыманы настой, адфільтраваць, пераліць яго ў фарфоравы кубак. Пасля ў гэты ж кубак пакласці які-небудзь выраб з серабра высокай пробы (пярсцёнак, ланцужок і да т. п.) і накрыць накрыўкай або проста талеркай. Пакінуць яго на ноч на абедзенным стале. Раніцай (але не пазней дзевяці гадзін па мясцоваму часу) дабавіць у настой адну сталовую лыжку сапраўднага кагору, размяшаць (серабро не выцягваць!) і выпіць роўна палову кубачка нашча.

Зноў накрыць кубачак накрыўкай. Увечары ў астатні настой дабавіць яшчэ адну сталовую лыжку кагору і, старанна размяшаўшы, выпіць перад сном. Усё.

Для прафілактыкі рэкамендую ўжываць хвойна-кагорны кактэйль раз у месяц. Але калі вы падазраяце (або, тым больш, ведаеце), што хтосьці хоча зрабіць вам штосьці дрэннае, піце яго часцей. А яшчэ лепш яго піць менавіта ў дзень кантакту з небяспечным для сябе чалавекам.

Тым жа, хто не верыць у нагаворы і сурокі, магу паведаміць, што такі настой вельмі добра дапамагае ад бяссонніцы і лішняй нервознасці, нармалізуе работу перыстальтыкі, узбадзёрвае імунную сістэму, паляпшае абмен рэчываў.

І яшчэ дадам, што (гэта ўжо вынік уласнага вопыту) лепш за ўсё дзейнічае настой з іголак, сабраных у першы дзень, калі поўны месяц. Праўда, чаму — не ведаю. Будзьце здаровыя!

А. КУЗНЯЦОЎ,
*«АиФ—Здоровье».*

# Голас нямых каменняў

*Дзённікавыя запісы*

«МЯДЗВЕДЗІЧЫ» — нягоршы раман, напісаны даволі ашчадна, з жывым, каларытным, на сёння, можа, забытым вясковым словам, з узнёслай дасціпнасцю і празрыстым гумарам. Шмат якія старонкі нават змушаюць пырснуць чуйным, добрым смехам.

Пераймальная і разам з тым прымальная проза ў коласаўскіх традыцыях, калі не ўспомніць... А няўжо трэба забыцца, як забыўся, а можа заплюшчыў ад страху вочы сам аўтар, ствараючы твор пасля таго, як быў уведзены крымінальны кодэкс 1926 года са знакамітым сатанінскім 58-м артыкулам, што абвяшчаў вышэйшую меру сацыяльнай абароны — расстрэл альбо аб'яўленне ворагам працоўных з канфіскацыяй маёмасці і «изгнанием из пределов».

Сталінская карная сістэма ўжо набірала няспынныя абароты. Ужо, прынамсі, разбураліся прыгранічныя ўздзенскія хутары, і з безнадзейным плачам беларускае сялянства пакідала родныя гнёзды, каб болей не вярнуцца да іх з чужое Архангельшчыны альбо халоднае Чалябы.

Усё можна зразумець, у тым ліку і аўтара, але не ўсё, пэўна, апраўдаць.

✍

Пад адзіноту, трапяткое лісце на вастраверхіх грушах і дажджлівую за акном хмурнасць асабліва ўтульна і чароўна чытаецца старажытная японская паэзія:

Душа ў мораку ночы.  
У траве заціхае  
Вадаспад дажджу.  
І кіёк, хаваючы пакуты  
мае,  
Ад свету мяне аддаліў.

Шчымлівы ад настылай ртутнай расы ранак. Далёкі і смутны голас зязюлькі. Ён рэзаніруе, калі стаіш у сутоках будынкаў: здаецца, кукуюць яны дзве і з розных бакоў.

Учора — салавей пад лілоказалацісты захад, што палаў за зубчатаю градою лесу. То зацёхкае, то заракоча. На халодную ноч. А зорная сыраватая ноч была для мяне цяжкаю — бясконцыя сны і бясконцае прачынанне. А перад сном вершаваўся верш:

Тужлівы боль, шчымліва  
страта.  
Жыцця забытага ўжо рай, –  
З страхой замшэлай  
беленыя хаты  
Сплылі за золкі небакрай.

✍

Неверагодна і парадаксальна блізка суадносяцца даўняе і сённяшняе. І маюць яны непрадказаную, непрадбачлівую пераймальнасць. Ужо болей як дзвесце гадоў лістам Дзяніса Фон-Візіна, напісаным у Маскву з Варшавы: са Смаленска выехалі мы 19-га жніўня... 21-га палуднаваць прыехалі ў горад Оршу, «изрядное местечко...», а начавалі ў вёсцы Коханаве, у карэце... 23-га палуднавалі за граніцаю, у вёсцы Начы. А раніцаю пераехалі раку Бярэзіну, «составляющую границу между Польскою Белоруссиею и Литвою. Весь день ехали дремучим лесом, а обедать и ночевать пристали к жидовским корчмам». 25-га прыехалі ў горад Мінск...» малым лучше нашей Вязьмы».

Цікавасць мая не ў яўрэйскіх мястэчках і корчмах, а ў тым, дзе будзе новая граніца Расіі, наколькі далей на захад адыдзе яна ад беларускай вёскі Нача пасля сустрэчы вока на вока.

✍

Што такое дарма страчаны час — гэта пошукі згубленай думкі. У мяне, прынамсі, згубленай сярод дзённікавых запісаў неабходнай цытаты.

✍

Калісьці думалася, дый сёння тыя ж мыслі ацвярджае жыццё: яўрэйская супольнасць аб'яднаная не толькі кагалам (хаўрусам), знітаванай адданасцю агульнай справе, вернасцю ідэі, узвышанасцю ўласнай асобы і чалавечай годнасцю. Адзін аднаго не прадае, не ўдае, як гэта паўсюдна робіць ціхмяны брат-ка беларус.

Аднак чытаю каментар да астатніх пісьмаў Восіпа Мандэльштама (брусельскае выданне) і з недаўменнем здзіўляюся: супроць паэта ў «Литературной газете» выступіў Д. Заслаўскі, вядомы фельетаніст, шальмуючы, зневажаючы і знеслаўляючы гонар суродзіча. Не менш крыўднае расчараванне і ад таго, што пад паклёпніцкім артыкулам паставілі свае подпісы Зялінскі, Пастарнак, Сяльвінскі, Катаеў, Зошчанка, Багрыцкі...

Няўжо мы толькі ў радасці і ў шчасці чалавечыя, а ў бядзе і гора — непрыяцелі і здрадлівыя ворагі? І зрэшты ўсе аднолькавыя, да якое нацыі не належалі б?

✍

Салідны, у сіняй ледэрынавай вокладцы том дакументаў знешняй палітыкі СССР. Як на сёння глянуўшы,то шкадуецца, што куплены быў толькі трэці, уцэнены. Але можа па той пэўнай прычыне, што ўпершыню ўбачыўся тэкст дагавора паміж Расіяй і Літвою, падпісаны 12 ліпеня 1920 года. Уклеены і дадатак да другога артыкула — белая мапа з чорнымі жылкамі рэк, чыгунак і шасэйных дарог. Блакітная нітка, што змяіцца па Нёмане, Бярэзіне, Нарачы, Мядзёлцы, Друйцы, сведчыць, што пад Літву адыходзілі многія раёны сённяшняй Гродзеншчыны і Міншчыны з гарадамі Гроднам, Лідаю, Ашмянамі, Паставамі і Браславам. Зрэшты, яны праз год адышлі, калі не пад Літву, дык пад Польшчу. Пазіраеш на белы ліст паперы — схему паменшанай мапы — і з новым ужо дзівам і недаўменнем сам-насам ускрыкваеш: хто ж не пашыраў межы сваёй дзяржавы за кошт Беларусі?! Нават маламоцная Літва. А што казаць пра дужэйшых. Абурэнне, ці хутчэй — жахлівую крыўду і бурлівы гнеў выклікае і той факт, што рабіўся падзел Беларусі, як сказана ў дагаворы, «на началах права и справедливости», а сыноў яе нават не паклікалі. І праўда ж: «Нас падзялілі, нас не спытаўшы» — як пісаў Колас. І ці першы раз? І страшна вымавіць — ці астатні?

✍

У адчаі, у бядзе, у найвялікшай крыўдзе мы, літаратары, мусіць не адзінокія. Альбер Камю лічыў, што творчасць — гэта дыялог. І тут жа з няверам у дабро і поспех спытаўся сам у сябе: «Але з кім? З грамадствам? З народам, які нас не чытае?..» А я маўчу, сцяўшы зубы, бо спытаць ужо не смею.

✍

Рабочыя сшыткі Твардоўскага. У іх — гутарка яго, не менш хворага, з безнадзейна хворым Фадзеевым, чаго Твардоўскі, напэўна ж, знарок не заўважыў, бо напісаў наступнае: «Совершенно ясно, что мила ему рыбная ловля, охота... выпивки на свободе от Москвы... Не напишет он романа — это грустно». А мне чамусьці прыгадаўся Караткевіч, яго астатнія гады, нашыя кватэры па суседстве, бяседы пры кілішку, і яго не раз і нібы для апраўдання паўторанае: «Ведаеш, я згубіў недзе канец сваіх «Каласоў», і знайсці не мог». А я прадчуваў, што іх няма і раман застанецца недапісаным: Валодзя — хворы, ссутулены і зжоўклы, і сілы яго на вялікі твор даўно скончыліся. Засталося толькі сваё жаданне ці творчая нямоглсць, якую і хацелася прыхаваць гэтым прытворствам — згубіў. Пры яго, дарэчы, акуратнасці, калі кожная шуфлядка ў стале была памечана: «проза», «чыстая папера», «вершы», «кіно». І ніводнай лішняй паперынкі пад рукою. Гэта я пішу на грудах кніг, папер, блакнотаў.

Сумна, што ён ужо трынаццаць гадоў, як адышоў. І горка, і журботна.

✍

Ён быў маўклівы, як кум у мяху.

На нашых нервова-крыклівых нарадах спаважна і скоса азіраўся на тых, хто ў запале падымаўся з чарговаю і можа непатрэбнаю прамоваю. Зрэдку паттакваў хіба народным, альбо нехаця выціскаў з сябе слова, калі да яго ўжо прыставалі з роспытам: «Ну, а як жа ты думаеш?»

Але вось перад ім на авальным стале, што стаіць у глухаватай ужо канферэнц-зале, дзе неўпрыкмет зніклі і кветкі і вазы, пачалі класціся спадцішка выцягнутыя з дыпламата і рукапісы, і падазроныя паперы. У яго надзіва знайшоўся і прарэзаўся, як першы зуб у гадавалага дзіцяці, упэўнены, нават настойлівы і патрабавальны голас.

Я, вядома, з недаўменнем пачаў зіркаць на яго, покуль не заўважыў прычыну гэтай збыт рэзкай, рашучай перамены — вузенькі канверцік на стале ў вахцёра, прысланы, як кажуць, з гары, акрэплены росным дождыкам навагодняга віншавання. Не думалася, пэўна ж, ніколі, што не новая і даўночаканая кніжка апавяданняў, не выпакутаваны і нарэшце дапісаны твор, а ўсяго толькі вузенькі канверт з асобаю паметкаю і для асоба выбраных прынясе творцу столькі пустой упэўненасці і фальшывага гонару. Нездарма ж мне прыгадваюцца тыя даўнія часы, калі адзін з савецкіх дзеячаў, па чутках — кампазітар, не мыў ажно тыдзень рукі, бо менавіта яму пашэнціла павітацца з «бацькам народаў» — вусатым менгрэлам.

Як жа ж мы бываем непрыемна агідныя нават самі сабе ва ўсе часы і эпохі.

✍

Больш як паўгадзіны за сталом, а пра нізенькага і клыпатага, што, відаць, перахварэў на ангельку, музыканта Галляша так і не напісаў. Бо, зрэшты, меўся сказаць не пра яго, Галляша, што іграў у Babaкомшчыне вечарынкі і ў часе п'янай бойкі мог схавацца ў сенцах, накрыўшыся ночвамі і пераспаць перадрагу, а пра пераклад беларускіх летапісаў на сучасную мову, дзе наша імя Галляш перадаецца як Ілля, а беларуская ідыёма «з ласкі божае» чамусьці перакладаецца на рускі лад — «з міласці божай».

Крыўдная нядбайнасць у неблагой і даволі патрэбнай кніжцы з серыі «Беларускі кнігазбор», дзе выдадзены нашы летапісы і хронікі.

Прынамсі, незразумела, дзеля якое патрэбы перакладалі «Баркулабаўскую хроніку», бо ўсё першароднае хараство, увесь незвычайны каларыт і зіхатлівы бляск беларускае унікальнае слова страціла, пацямнела і сцёрлася, рыхтык старая манета. Адбылося ўсё наадварот — дзеяпіс не аднавіўся, а змерк і пацямнеў.

Дзякуй Богу, я маю на руках тры неацэненыя акадэмічныя тамы беларуска-літоўскіх летапісаў, выдадзеныя праз незабыўнага Мікалая Улашчыка, і магу зазірнуць у мову тагачаснага арыгінала.

Можа калі-небудзь з ласкі Божае будуць перавыдадзеныя і яны — дакументы нашай еўрапейскай дасведчанасці і дзяржаўнай незалежнасці. Бо сёння ў Беларусі, як пішацца ў той жа «Баркулабаўскай хроніцы», — «ни зима, ни лето, ни осень, ни весна».

**Вячаслаў АДАМЧЫК.**

***Гэта мы, Госпадзі***

# РОДНАСНЫ АБМЕН

**У Галівудзе на гэтую тэму маглі б зняць фільм. Псіхалагічны трылер. Адзінокі стары, даведзены да адчаю адносінамі з роднымі людзьмі, з якімі жыццё звяло ў адной кватэры, аднойчы вырашае ад іх пазбавіцца. Аказваецца, у той жа момант яны таксама думаюць пра гэта.**

**Канешне, давесці да абсурду можна любую тэму, калі скласці адпаведны сцэнарый. А калі кожны дзень круціцца ў падобнай сітуацыі, то акажацца, што абсурд сам кіруе тваім жыццём. І, на жаль, пазбавіцца ад яго не так проста, як у кінафантазіі.**

Самуілу Пракопавічу ўвесь час здаецца, што яго хочуць атруціць. Таму ён невылазна сядзіць у сваім пакоі, закрыўшыся на замок. Толькі ў дзень пенсіі выходзіць, каб закупіць пячэння ці яшчэ чаго-небудзь, што не псуецца. Так цягнецца амаль год, з таго дня як ён чамусьці вырашыў, што жонка пляменніка нечага падмяшала яму ў суп. Тады яго званітавала, прыехала «хуткая», прымусілі прамыць страўнік, гэтым усё і абышлося. Вось толькі Самуіл Пракопавіч адмовіўся ад агульнага стала з сям'ёй пляменніка. Харчаваўся як прыйдзецца, зусім знясілеў, у час патрапіў да ўрачоў...

Зараз ён толькі азіраецца на мінулыя гады. Што яшчэ рабіць чалавеку, які цэлымі днямі сам-насам са сваімі думкамі і ўспамінамі? Жылі паціху з жонкай у аднапакаёўцы. Дзяцей не нажылі, багацця таксама. Але клапаціліся адзін аб адным. Усе суседзі дзівіліся ладу, які панаваў у іх доме. Два чалавекі, але такая цеплыня заўсёды была побач з імі. Многія тады заходзілі адагрэцца ад холаду непаразумення, на які натыкаліся ў сваім жыцці. Для ўсіх хапала ласкі ў жонкі Самуіла Пракопавіча. Яе дабрыня і цягнула розных людзей да іх. Але наўрад ці хто здагадваўся, што гэтая жанчына некалькі гадоў пакутавала ад невылечнай хваробы. Потым яе не стала. Дом адразу апусцеў. Ператварыўся ў звычайную кватэру, дзе чалавек, мужчына, ужо пенсіянер, раптам апынуўся адзін. Дзе сябры, шматлікія знаёмыя? Звычайныя сцены змаглі адгарадзіць яго ад усяго свету.

Адзінае, што яшчэ ўтрымлівала ад беспрасветнай тугі — паездкі ў вёску, да сястры. Яна і падкінула думку, што яму, старому, нельга жыць аднаму, абавязкова, каб у хаце яшчэ былі людзі. Самуілу Пракопавічу тады толькі пераваліла за шэсцьдзесят. Але адзінокая старасць, пра якую ўвесь час нагадвала сястра, так і стаяла перад вачыма. Вольга Пракопаўна, у адрозненне ад брата, вельмі практычная жанчына. Яе адзіны сын тады якраз ажаніўся, маладыя чакалі дзіця, седзячы ў сваёй аднапакаёўцы. План Вольгі Пракопаўны павінен быў задаволіць усіх: у выніку «роднаснага абмену» маладая сям'я атрымала б магчымасць пашырыць жыллёвую плошчу, а брат меў бы пад бокам людзей, якія пра яго клапаціліся б.

З'ехаліся. У выніку нейкіх ператасовак, неверагодных намаганняў Самуіл Пракопавіч з сям'ёй пляменніка аказаўся ў трохпакаёвай кватэры. Пакуль ішлі справы, у пляменніка нарадзілася другое дзіця. Таму дзядзьку адразу выдзелілі адзін пакой, самы маленькі, абы толькі не перашкаджаў. А Віталь з Аленай былі занятыя сваімі справамі, сваёй сям'ёй, дзецьмі.

За стол яго ніколі не запрашалі. Спачатку Алена прыносіла яму ежу сама — абы не псаваў інтэр'ер кухні. Потым ежы станавілася ўсё меней. Аднойчы жонка «наехала» на пляменніка, маўляў, што гэта такое, жывём на адну зарплату (яна ў дэкрэтным), яшчэ і дармаеда ўтрымліваем. Віталь толькі паціснуў плячыма — яго асабліва не хвалявала, што нехта жыве ў іх хаце. Тым больш, што дзядзька клопатаў не вымагаў. Яму сказалі — не высоўвайся, ён і сядзеў ціхенька. А калі ўзнікла «харчовае» пытанне, Самуіл Пракопавіч дрыжачымі рукамі вынес Віталю частку сваёй пенсіі. Той узяў, а Алена дадала, што на гэтыя грошы сёння можна пракарміць хіба што малое дзіця. «Дзіцячую» порцыю яму і пачалі выдзяляць.

Самуілу Пракопавічу здавалася, што ён апынуўся ў ролі кватаранта. У «сям'ю» яго не прынялі, ставіліся як да істоты, з існаваннем якой прыходзіцца мірыцца. Ён цэлымі днямі сядзеў у «закутку», як празваў сваю тэрыторыю. Калі ўсе кудысьці сыходзілі, ён браўся наводзіць у сябе чысціню, каб зноў жа Алена не нудзіла, што блытаецца пад нагамі. Так цягнулася некалькі гадоў. Ён моўчкі цярпеў.

Потым Алена выйшла на працу. Кватэра цэлымі днямі была пустая. Самуіл Пракопавіч неяк каратаў дзень — нібы сабака — вартаўнік ад зладзеяў. Ад адзіноты і нявыказаных думак яшчэ не стары мужчына хутка ператварыўся ў знясіленага, пасівелага, хмурага дзеда. Нарэшце ён вырашыў з'ездзіць да сястры і па-свойску сказаць ёй, што жыцця з сям'ёй Віталіка не атрымалася. Што яму будзе лепш па-роднаснаму, паdobраму раз'ехацца. Яму каля сямідзесяці, дык хацелася б чакаць смерці хаця б у спакоі.

У Вольгі Пракопаўны знайшлося для брата толькі адно слова «вар'ят».

Пачалося трывалае процістаянне. Самуіл Пракопавіч адстойваў права вырашыць свой далейшы лёс. Раней у яго была кватэра, зараз ён быў згодны нават на асобны пакой пры размене. Тое ж самае, але ён трапіў бы ў камуналку, дзе ўсе былі б роўныя. Часам жа здаецца, што з чужымі складваюцца адносіны лепшыя, чым з роднымі. На гэта ён і спадзяваўся.

Сям'я абвясціла яму байкот. Маўляў, ніякай карысці ад яго жыцця на гэтым свеце няма, адзінае — квадратныя метры. Тут жа яму адмовілі ў харчаванні: «Хочаш жыць асобна — калі ласка». Дзецям строга наказалі не падбягаць да яго дзвярэй. Самуіл Пракопавіч з жартам усміхнуўся: «Вы б яшчэ шыльду на мае дзверы павесілі: асцярожна, злы сабака...»— «А што, так і ёсць», — агрызнулася Алена.

Каб не высоўвацца на кухню, ён перайшоў на сушкі з гарбатай, а пенсію пачаў адкладваць «на пахаванне», бо раптам стаў адчуваць болі ў сэрцы. Аднойчы так прыціснула, што вымушаны быў папрасіць пляменніка выклікаць «хуткую дапамогу». Але тут як непахісная сцяна перад тэлефонам паўстала Алена: «Гэты сімулянт нас усіх перажыве! — крычала яна. — Яму толькі і трэба зараз прадэманстраваць усім, як да яго дрэнна адносяцца...» Гэта толькі частка з бурнага патоку слоў, што былі сказаны ў яго адрас. Ён ужо не памятае, колькі муж з жонкай паміж сабой спрачаліся, ці варта ўсё ж выклікаць «хуткую». Вырашылі пачакаць да раніцы. Калі на наступны дзень усе разышліся (пра яго проста забылі — сядзіць ціха, значыць нічога страшнага), ён сам набраў «03».

«Тэрмінова ў бальніцу», — сказала доктарка. Самуіл Пракопавіч пакінуў дома паперу — дзе ён будзе і што з ім. Проста, каб ведалі. Родныя ўсё ж такі...

Ніхто так і не прыйшоў.Праваляўшыся каля месяца ў бальніцы, дзядзька вярнуўся дахаты. Адчыніў свой пакой — і адразу зразумеў, што нечыя рукі тут добра пашуравалі. Заначкі «на смерць» на месцы не было.

Аказалася, Віталю падвярнулася новая канапа, танна, тэрмінова патрэбны былі грошы.

Самуіл Пракопавіч сабраўся з духам, у той жа дзень урэзаў замок у свае дзверы, напісаў некалькі аб'явак наконт абмену і наклеіў на слупах каля аўтобусных прыпынкаў.

Аднойчы прыйшлі па аб'яве — глядзець кватэру. Алена адчыніла дзверы і збагравела, калі Самуіл Пракопавіч выйшаў насустрач. «Разбірайся», — паклікала яна Віталя і, сціснуўшы зубы, адышла ўбок. Пляменнік тут жа захапіў ініцыятыву і хуценька патлумачыў наведвальнікам, што ў іх тут жыве дзед, трошкі не ў сабе, ды вось паглядзіце на яго, няўжо такі чалавек нешта добрае прыдумае, так што выбачайце, ён проста хворы.

Быў скандал. Потым быў яшчэ не адзін. Зноў прыязджала «хуткая». Віталь выклікаў маці з вёскі, каб яна паўплывала на брата. Тая прыехала, доўга шапталіся з дзецьмі на кухні. Потым падышла да хворага: «Ну, не хвалюйся, усё будзе добра, яны абяцалі цябе карміць. Толькі ж ты не ўпарціся, зразумей, якое зараз жыццё, усе нервовыя. Ці многа табе тут засталося? Пацярпі...»

*Белы снег прыпарошвае дарогі. Белым замяло валасы Самуіла Пракопавіча. Часам, белай пеляной засцілае вочы. Дзе тая смерць? Чаму не спяшаецца ў хату, дзе ўсе толькі яе і чакаюць, пра яе думаюць. Быццам бы выпрабоўвае на трываласць пачуццё цярплівасці жыхароў гэтай кватэры.*

**Ларыса ЦІМОШЫК.**



## СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ

**13 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА**

**Рэкамендацыі.** Дзень важных і сур'ёзных мерапрыемстваў. Завяршайце раней пачатыя справы. Але пазбягайце празмернай актыўнасці, мітуслівасці. Непажаданыя далёкія паездкі. Сачыце за сваімі думкамі. Менш гаварыце і не павышайце голасу. Процiпаказаныя злосць, зайздрасць, агрэсія і асуджэнне. Пажадана не займацца прыбіраннем дома, мыццём бялізны і прыгатаваннем ежы. Добра пазбаўляцца ад старых рэчаў. Удзяліце больш увагі сям'і. Вечар спрыяльны для сямейных адносінаў. Можна злёгку расслабіцца і выпіць крыху халоднага сухога віна ці падагрэтага кагору. Не ешце грыбоў і жывёльнай ежы.

**Адзенне.** Дапускаюцца любыя колеры адзення, акрамя чорнага. Найбольш спрыяльны сёння белы колер.

**Прыметы.** Спыненне гадзінніка — да заканчэння нейкага дрэннага перыяду ў вашым жыцці, выхад на новы ўзровень. Калі з пярсцёнка выпадае камень ці дае трэшчыну — знак значнасці, лёсу, хваробы. Выпадкова разбітае шкло ці посуд — знак расчаравання ў жыцці і сварка з блізкімі. Ірвецца адзенне, адрываецца гузік — да пазбаўлення ад перашкод і нягод.

**Сны.** Збываецца толькі той сон, у час якога вы нечакана прачняцеся і запомніце яго да канца. Лепшы — у якім вы бачыце люстэрка ці сябе ў люстэрку — знак ачышчэння і пазбаўлення ад няшчасцяў.

**Медыцына.** Духоўная нечыстата адбіваецца сёння на саставе крыві. Рэкамендуюцца крываачышчальныя працэдуры. Нельга рабіць аперацыі на брушной поласці. Добра лячыць печань, органы пачуццяў, скурныя хваробы і ногі.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам**

**Людзі, добра знаёмыя з традыцыйным народным календаром, ведаюць аб устойлівай прымеркаванасці найбольш значных святаў да пэўнага часу. Так, Каляды і Купалле адзначаюцца ў перыяд зімовага і летняга сонцавароту, Вялікдзень святкуецца пасля першай поўні, якая надыходзіць услед за днём веснавога раўнадзенства. Масленка — за сем тыдняў наперад, а Тройца — праз такі ж час пасля. Аднак чаму такое вялікае свята, як Грамніцы, у назве якога чуецца магутная сіла вясенне-летняга стану прыроды, прыпадае на 2 (н. ст.) або 15 лютага (ст. ст.)?**

**Сярод асобных навукоўцаў існуе думка, што назва бярэ свой пачатак ад аднаго з галоўных язычніцкіх боствaў — Грамаўніка, прычым абавязкова ўдакладняецца — Перуна.**

# ПРЫЙШЛІ ГРАМНІЦЫ — СКІДАЙ РУКАВІЦЫ

З гэтай версіяй можна было б пагадзіцца, калі б жывая моўная стыхія не пранесла праз стагоддзі і не захавала ў сённяшнім ужытку назвы трох блізкародасных бостваў — **Перуна, Маланкі і Грому**. Кажуць жа ў народзе: «пярун цябе забі», «гром грыміць», «маланка паліць», «маланка б'е ў высокае дрэва». У жыцці даволі часта бываюць канфліктныя сітуацыі паміж суседзямі. І тады са злога языка часам можа сарвацца праклён: «Каб ты свету белага не бачыў», «Каб цябе пранцы з'елі». Можна пачуць і такое: «Каб цябе пярун забіў!» Але цікава, што на апошні праклён ёсць рыфмаваны адказ — магічна ахоўная формула: «Бывае, што і гром не забівае», або «Хай сабе б'е пярун, ды міма». **Можа таму свята і атрымала назву ад прыроднай стыхіі, якая б'е і не паліць, а толькі грыміць (абвяшчае, перасцерагае, ахоўвае)?**

Звычайна фалькларысты нагадваюць шырока вядомыя прыказкі: «Да Грамніц не скідай з рук рукавіц, а як прыйшлі Грамніцы, то ўжо не трэба рукавіцы», «На Грамніцы — паўзіміцы», «Грамніца — хлебу палавіна» і інш. Хочацца спадзявацца, што адказ на няпростае пытанне закадзіраваны яшчэ ў адной вядомай прыказцы: **«Калі на Грамніцы певень нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я вол наесца травіцы»**. Нагадаем, што св. Юрый (Георгій) святкуецца 6 мая, ён «адмыкае» веснавыя росы, абуджае зямлю, якую восенню «замкнулі» Пакровы. Калі ж лічыць, што зімовы сон зямлі цягнецца ад Пакроваў да Юр'я, тады зразумела, чаму народная свядомасць імкнецца задобрыць Грамаўніка. Справа ў тым, што з гэтай пары паступова суцішаюцца траскучыя (аж вуглы у хаце трашчаць) маразы («Прыйшлі Грамніцы — скідай рукавіцы»), павялічваецца дзень, набірае моц Сонца. Хутка пачнецца абуджэнне прыроды, па стану якой селянін спрабаваў прадбачыць будучы ўраджай. Дарэчы, да нашых дзён захавалася павер'е: **год будзе галодны, калі першы гром падзе на голы лес** (зноў-такі гром, грымоты ўспрымаліся як перасцярога, напамінак). І наадварот: **«Калі гром грыміць на зялёны лісток, то будзе багаты гадок».**

Не выпадковая і назва свята. Беларус-земляроб звяртаўся па дапамогу да боства, якое абараняла і не ўчыняла шкоды. Пацвярджэнне гэтаму можна знайсці ў тых святах і абрадах, падчас правядзення якіх вялікая роля надавалася шуму, грому. Напрыклад, пахаванне чалавека здавён суправаджалася тужлівымі галашэннямі, якія, з аднаго боку, уабралі ў сябе горыч вялікай страты, суперажыванні родзічаў і блізкіх, а з другога — яны прызначаны былі (і гэта іх роля больш старажытная) адганяць ад дома памёршага злыя сілы, саму Марану-смерць, каб яна не забрала з сабой яшчэ каго-небудзь. Тую ж ролю выконвалі вясельныя галашэнні (прычым яны гучалі толькі да вянчання ў царкве, г. зн. да таго моманту, калі маладыя ўжо ўзялі шлюб і нішто не магло перашкодзіць ім), а таксама званочак пад дугой каня, які імчаў наперадзе вясельнага поезда. Набат царкоўнага звону або гул падвешанай жалязякі таксама папярэджвалі аб бядзе — прыбліжэнні ворага ці аб пажары.

Пазней, з прыняццем беларусамі хрысціянства, магічна-ахоўную ролю шуму-грому сталі выконваць свечкі, якія ў народным ужытку называюцца грамнічнымі. Воск для іх рыхтаваўся загадзя, а выраблялiся яны гаспадаром напярэдадні, а часцей — у апошнюю перад святам суботу. Вядомы звесткі, што даўжыня грамнічнай свечкі была прыкладна 10 вяршкоў (44 см), а таўшчыня — тры чвэрці вяршка. Практыка паказала, што такія памеры рабілі яе найбольш зручнай для рытуальнага карыстання. Святочным ранкам гаспадар спяшаўся ў храм асвяціць свечку, пасля чаго яна набывала засцерагальную сілу і на працягу ўсяго года неаднаразова становілася асноўным атрыбутам розных ахоўных дзеянняў.

Перш-наперш пасля вяртання дадому гаспадар даставаў свечку з-за пазухі, жонка запальвала яе і ў хаце адбываўся абрад агністага крыжавання. Гаспадар крыжападобна абпальваў валасы спачатку на сваёй галаве, потым жонцы і ўсім астатнім членам сям'і па ўзросту. Затым гуртам сям'я ішла ў хлеў, дзе агністыя крыжы злёгку выпальваліся на спіне кожнай жывёліны. Заканчваўся абрад датыкання (ці не тым самым пастукваннем-грымотамі) грамнічнай свечкі да ўсіх сцен, вушакоў, дзвярэй, пастаўленых на зімоўку вулляў. Пасля гэтага свечку хавалі за бажніцу ці ў куфар, каб злыя сілы не ведалі, што яна існуе і дзе схавана.

На працягу ўсяго часу да наступных Грамніц свечка станавілася надзейным ахоўным сродкам сям'і, і хаты, і ўсёй гаспадаркі. Любая важная падзея ў жыцці сям'і абавязкова суправаджалася рытуалам асвячэння грамнічнай свечкай. Яе бралі з сабой, калі ішлі сватацца, запальвалі, калі бабка-павітуха прымала нованароджанага, давалі ў рукі чалавеку, каб лягчэй працякаў перадсмяротны час; потым яна абвяшчала аб пачатку памінальных сталоў, яе ставілі ў кут на Дзяды або на магілку на Радаўніцу.

Без яе не абыходзіліся і шматлікія сялянскія работы. Трымаючы ў руках велікоднае яйка і «грамніцу», гаспадыня тройчы абходзіла карову перад першым выганам на пашу, пазней таксама тройчы пастухі абходзілі ўвесь статак, каб каровы не губляліся з лесе і каб іх не чапалі ваўкі. Адвячоркам гаспадыня сустракала жывёлу з поля з той жа самай «грамніцай». Не забываліся пра яе і тады, калі насыпалі ў мяшкі насенне перад сяўбой (каб захаваць палетак ад граду), калі пачыналі жніво і калі першую вымалачаную збажыну сыпалі ў засек. Калядная куцця абавязкова пачыналася з запальвання асвечанай васкоўкі, прычым назіралі, як гарыць свечка. Калі яна пастаянна патрэсквала, то летам трэба было чакаць частых грымот, навальніц. На Купалле ж патушаную свечку вешалі кнотам ніц да дзвярнога касяка, каб нячыстая сіла, якая, лічылася, балявала ў гэту ноч, не змагла трапіць у хлеў і забраць малако ў кароў. Дбайная гаспадыня заўсёды спяшалася дастаць «грамніцу», як толькі пачыналася навальніца (аб чым загадзя, яшчэ здалёк папярэджваў гром), каб перасцерагчы дом і сям'ю ад перуновых стрэл.

Свяшчэнны, ачышчальны агонь грамнічнай свечкі суправаджаў важнейшыя этапы будаўніцтва новай хаты і яе першапачатковага абжывання. Яе трымалі пры сабе, калі выбіралі месца для пабудовы новага жытла, калі закладвалі першую падваліну, калі «запівалі» першы вянок, калі праразалі акно ад вуліцы і дзверы, калі закладвалі печ. Калі спраўлялі ўлазіны, то гаспадыня крыжападобна асвячала ёю кожны куточак у хаце.

Некаторыя славянскія ведуны і экстрасенсы раяць: як толькі ад вас пайшлі госці (а нехта з вашых дамачадцаў паспеў паскардзіцца, што пачаў адчуваць сябе кепска, або яму не спадабаліся вочы каго-небудзь з гасцей), то трэба запаліць грамнічную свечку і адну хвілінку патрымаць яе перад люстэркам, якое вісела ў прыхожай, каб ачысціць яго ад чорнай энергетыкі, якую ў ім пакінулі госці.

У сувязі з тым, што грамнічная свечка валодае выключнымі магчымасцямі, яе катэгарычна забараняецца пазычаць сваякам і блізкім. Відаць, з часам такое абмежаванне пашырылася, і на яго аснове нарадзілася забарона пазычаць агонь (запалкі) у нядзелю або ў вялікае свята пасля заходу сонца.

Народныя лекары перакананыя, што не толькі сама свечка, але і яе сплавы спрыяюць лячэнню шэрагу захворванняў. Іх насілі пры сабе ад сурокаў, імі падкурвалі пры спалохах, ліхаманцы, пужанні.

У гэты дзень хрысціянская царква святкуе Стрэчанне Гасподне. У адпаведнасці са старажытнай іудзейскай традыцыяй першага хлопчыка бацькі аддавалі ў храм на служэнне Госпаду. Іосіф і Марыя прынеслі свайго сына ў храм на саракавы дзень пасля нараджэння. У храме іх сустрэлі праведны Сімяон і прарочыца Ганна. Сімяон благаславіў Ісуса Хрыста, як яму было прадказана. А сам хутка спачыў.

Аднак у народным асяроддзі царкоўвае Стрэчанне атрымала дадатковае адценне і стала ўспрымацца як сустрэча зімы з вясною.

*А ў нас сёння Стрэчанне,*
*Стрэчанне,*
*Зіма з летам стрэлася,*
*стрэлася.*
*Лета зіму піхнула, піхнула*
*І ножачку звіхнула, звіхнула.*
*Зіма пайшла плачучы, плачучы,*
*Лета пайшло скачучы, скачучы.*

Зразумела, што такая важная мяжа ў стане прыроды павінна была прадказваць надвор'е наперад. Скрыпучы мароз у гэты дзень сведчыў: снег хутка сыдзе, вясна будзе сухой, а год — галодны. Пацяпленне раніцай прадказвала цёплае заканчэнне зімы; адліга ў поўдзень — будзе цёплай вясна, а калі пад вечар — чакай спякотнага лета. Грамнічная мяцеліца сведчыла аб позняй вясне і дадатковым клопаце аб заканчэнні стойлавага ўтрымання жывёлы.

Старыя людзі раяць: рэшткі грамнічнай свечкі ніколі не выкідвайце, а пераплаўляйце ў новую, хаця лепш за ўсё насіць яе з сабой. Гэты амулет падорыць вам шчасце, зберажэ ў далёкай дарозе, не дасць заблудзіцца ў незнаёмых мясцінах.

Беражы вас Бог і грамнічная свечка.

**Янка КРУК,**
**кандыдат філалагічных навук.**

## Беларускі народна-асветніцкі каляндар

**12 ЛЮТАГА.**

100 гадоў з часу заснавання (1898) Барысаўскага хрусталёвага завода.

80 гадоў (1918) з дня ўводу на тэрыторыі СССР, у тым ліку і на Беларусі, календара новага стылю.

165 гадоў з дня нараджэння (1833-1923) І. А. Сцебута, грамадскага дзеяча, вучонага-агранома, аднаго з заснавальнікаў навуковага раслінаводства, абаронца жаночай сельскагаспадарчай адукацыі, арганізатара спецыяльных жаночых Сцебутаўскіх курсаў.

## Віншаванні

*Віншуем* ***Алега Міхайлавіча КІРЭЕВА*** *з 30-годдзем. Шчасця і поспехаў табе, усіх зямных даброт.*

**Жонка, дачка,** *в. Гарочычы.*

*Віншуем з юбілеем, 70-годдзем з дня нараджэння,* ***Леаніда Флоравіча НЕВЯРОВІЧА*** *з г. Мінска. Жадаем здароўя, радасці і даўгалецця.*

**Жонка, дзеці, унукі.**

*Віншуем* ***Марыю Цярэнцьеўну і Яўгена Апанасавіча КАВАЛЕНКАЎ*** *з 35-годдзем сумеснага жыцця.*

У дзень юбілею, у светлае свята
Жадаем здароўя і шчасця багата,
Хваробы ніякай не ведаць ніколі,
Пражыць аж да сотні, а можа і болей.

**Сыны, унук Максім** *з Зашыр'я.*

*Дарагі і любімы*
***Мікалай Маркавіч ЗАЙЦАЎ*** *з Полацка.*
*Віншуем з 60-гадовым юбілеем.*

Пусть этот юбилей не будет огорченьем,
Морщинки пусть разгладит и сотрет,
Здоровье укрепит, от бед избавит,
И счастье в дом надолго принесет.

**Родныя,** *г. Мінск.*

*Віншуем з 70-годдзем дарагога бацьку і дзядулю* ***Фёдара Пятровіча ГРАБЕННІКАВА****. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці.*

**Дзеці, унукі,** *г. Добруш.*

*Віншуем з днём нараджэння* ***Надзею Ільінічну КАМАНКОВУ*** *з в. Міхайлава Мсціслаўскага раёна. Жадаем здароўя, бадзёрасці, шчасця і радасці ў жыцці.*

**Вера, Уладзімір.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

- **12 лютага 1809 года** нарадзіўся Аўраам Лінкальн, 16-ты прэзідэнт ЗША (1861—1865 гг.), адзін з арганізатараў рэспубліканскай партыі. Па яго ініцыятыве ў краіне было адменена рабства.
- **У гэты дзень таго ж 1809 года** нарадзіўся вядомы англійскі вучоны-натураліст Чарлз Дарвін, аўтар тэорыі паходжання чалавека ад малпы.
- **У гэты дзень у 1881 годзе** нарадзілася славутая руская балерына Ганна Паўлава. Выступала ў галоўных партыях класічнага рэпертуару, асаблівую славу прынёс ёй харэаграфічны эцюд «Паміраючы лебедзь» на музыку К. Сен-Санса.
- **12 лютага 1900 года** нарадзіўся Васіль Іванавіч Чуйкоў, вядомы савецкі военачальнік, Маршал Савецкага Саюза, двойчы Герой Савецкага Саюза, удзельнік грамадзянскай, савецка-фінскай і Вялікай Айчыннай войнаў.
- **У гэты дзень у 1918 годзе** па рашэнню СНК Савецкая Расія перайшла на грыгарыянскі каляндар.

### Неверагодна!

***Джасцін Дэч з англійскага гарадка Хертфордшыра пакутуе надзіва рэдкім відам алергіі, якой зайздросцяць не толькі яго сябры-аднагодкі, але, бадай, і ўсе брытанскія школьнікі: 13-гадовы падлетак, пераступаючы парог школы, пачынае безупынна чхаць.***

Збіць сімптом загадкавай хваробы не ўдаецца ніякімі медыкаментамі. Чханне Джасціна можа працягвацца гадзінамі, і бедным настаўнікам не застаецца нічога іншага, як выправоджваць тынэйджэра дамоў, бо ён перашкаджае сканцэнтравацца сваім аднакласнікам, а выкладчыкі трацяць усякае жаданне тлумачыць урок. На здзіўленне ўсім, у тым ліку і ўрачам, і дома, і на вуліцы хлапчук адчувае сябе зусім добра. Чхае ён толькі тады, калі міма яго праходзяць людзі, якія хоць крыху па знешняму выгляду нагадваюць школьных педагогаў.

### І так бывае...

***Цікавы спосаб прыбраць мужа да рук знайшла 63-гадовая масквічка Валянціна Ч.***

Яе муж меў слабасць да жаночага полу, і бедная жанчына ішла на розныя хітрыкі, спрабуючы адвучыць мужа ад здрадаў і захаваць сям'ю. Нарэшце яна знайшла добры сродак. Адна багамольная суседка расказала ёй гісторыю з Бібліі — пра тое, як Даліла пазбавіла сілы асілка Самсона, адрэзаўшы ў яго пасму валасоў.

Наступнай раніцай, прачнуўшыся, яе муж Мікалай, які напярэдадні добра прыняў «на грудзі», жахнуўся: галава яго аказалася астрыжанай нагала. З таго часу ён спыніў усякія паходы на бок. Жонка ж, бачачы, што валасы мужа пачынаюць адрастаць, рэгулярна падпойвала яго і акуратна выбрывала чэрап свайго нявернага.

Вылазкі мужа Валянціны, якога суседзі празвалі Фантамасам, спыніліся 5 гадоў таму. І хоць зубаскалы кажуць, што ў Мікалая, маўляў, закончылася яго мужчынская сіла, жонка застаецца задаволенай.

### Дзесьці на белым свеце

***85-гадовы англічанін Патрык Лау ўсё жыццё вызначаўся крутым норавам. Не здрадзіў сабе і ў той дзень, калі ў яго кватэру ўварваўся рабаўнік.***

Стары так раз'юшыўся, што кінуўся на бамбізу і ўчапіўся зубамі яму ў вуха. Злодзей завыў ад болю, а стары толькі мацней сціскваў сківіцы, жадаючы, відаць, наогул адкусіць вуха свайму праціўніку. Дантыст, які вырабіў для містэра Лау ўстаўныя сківіцы, папрацаваў сумленна. Штучныя зубы зашчоўкнуліся, як у бульдога, намертва ўпіўшыся ў вуха.

На дзікія крыкі зладзея збегліся суседзі. Разабраўшыся, у чым справа, яны выклікалі паліцыю. Аднак нават мускулістыя вартаўнікі парадку не змаглі разняць сківіцы дзядулі. Давялося злачынцу і ахвяру разам дастаўляць ва ўчастак, і толькі там з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў гэтую парачку ўдалося расшчапіць.

### Загадкавае

***Мэры Джын з аўстралійскага горада Брысбен заснула ў вясельную ноч, поўная яркіх спадзяванняў на бязвоблачнае сямейнае жыццё з прыгажуном-мужам Філам. А калі прачнулася, то нечакана ўбачыла сябе ў бальнічным боксе. Прычым першым, каго яна ўбачыла, быў урач, а не Філ.***

Калі Джын запатрабавала тлумачэнняў, то была шакіравана, даведаўшыся, што праспала... 30 гадоў. Урачы спрабавалі разбудзіць яе, прымяняючы электрашок, магнітнае поле, але ўсе іх намаганні аказаліся беспаспяховымі. За трыццаць гадоў, праведзеных у сне, Мэры Джын практычна не пастарэла і выглядала амаль гэтак жа, як у 1967 годзе, калі ёй было дваццаць. Мэры запатрабавала неадкладнай сустрэчы са сваім мужам, але яе расчаравалі. Філ даўно жыве ўжо з іншай жанчынай і мае дзяцей.

Мэры зноў стала будаваць светлыя планы на будучыню. Неўзабаве яна выйшла замуж за 40-гадовага бізнесмена, але ўжо праз паўгода заўважыла дзіўныя метамарфозы, якія адбываліся з яе целам: місіс Джын стала катастрафічна хутка старэць. За два з палові гады Мэры ператварылася ў завялую жанчыну і знешне ўжо нічым не адрознівалася ад сваіх равесніц.

### Анекдот

*Баба Ганна кажа сваёй унучцы:*

*— Ах, Машачка, у дні маёй маладосці музыка была непараўнальна больш меладычная, чым цяпер...*

*— Бабуля, але ж гэта працуе міксер!*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.119. Індэкс 63850.
Зак. № 773.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12